*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 35 (143) ◈ 1 верасня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



1 ВЕРАСНЯ ЎСТУПІЛІ Ў ДЗЕЯННЕ НАСТУПНЫЯ АРТЫКУЛЫ ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ МОВАХ»: арт. 11 — «Мова дакументаў аб статусе грамадзян Рэспублікі Беларусь»; арт. 27 — «Мова ў сферы навукі»; арт. 28 — «Мова ў сферы культуры»; арт. 29 — «Мова сродкаў масавай інфармацыі»; арт. 31 — «Мова аб'яў і паведамленняў»; арт. 32 — «Мова маркіроўкі тавараў»; арт. 35 — «Мова асабовых імёнаў». У сувязі з гэтай падзеяй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны звяртаецца да ўсіх кіраўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый і ўстаноў, усіх грамадзян, каму дарагая родная мова, хто лічыць для сябе гонарам і абавязкам садзейнічаць яе развіццю і росквіту, у паўсядзённым жыцці і працы канкрэтнымі справамі спрыяць выкананню Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах».

◆◆◆

*ЯК ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ сродкі масавай інфармацыі, урад не выключае магчымасці, што ў бліжэйшую зіму ў кватэрах будзе ўсяго 13—14 градусаў цяпла. І «рускамоўнасць», на якую спадзяваліся нашы ўрадаўцы, тут не дапамагла. Масква кажа: мова мовай, а за нафту — долары.*

*Парламенцкая апазіцыя лічыць, што менавіта адсутнасць уласнай дзяржаўнай палітыкі ў сферы эканамічных рэформ, чаканне падачак ад Расіі і прывялі да такога стану, што будзем мерзнуць.*

◆◆◆

У МЕНСКУ СТВОРАНА ЯШЧЭ АДНА ПАЛІТЫЧНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ — Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці.

## *Віншуем спадарства з новым навучальным годам! Будзем разам і далей вучыцца грамаце, дэмакратыі і жыццю ў незалежнай Беларусі*

*Віктар ШНІП*

## *Родная школа*

*Наша родная школа, калі ж беларускай ты станеш*
*І ў дзіцячай душы Беларусь ты асвеціш маю,*
*У якой беларус не ціхмяны жыхар, а паўстанец,*
*Гаспадар, які меў, які мае дзяржаву сваю.*

*Дайце ж быць гаспадыняй маёй беларускае мове*
*На зямлі беларускай, на нашай спрадвеку зямлі,*
*Спадары-ўладары, абруселыя гора-панове,*
*Што за грошы і нас і сябе чужакам прадалі.*

*Сёння час той мінуў, калі можна не помніць нічога,*
*Калі трэба глядзець, каб жа як не ўгнявіць нам Маскву.*
*Сёння ў Храм наш бялюткі адкрыта праз волю дарога,*
*Не дадзім жа на ёй зноў пасеяць няволі траву.*

*Беларускі настаўнік, адчуй сваю моц, бо ты дома,*
*На цябе спадзяецца народ наш вялікі і Бог.*
*Нашу мову не знішчыць ніколі, ніколі нікому,*
*Бо не знішчыць народ, што прайшоў праз савецкі астрог.*

*Наша родная школа, ты ўсё ж беларускаю будзеш*
*І ў дзіцячай душы Беларусь ты асвеціш маю,*
*Бо жылі і жывуць і змагаюцца нашыя людзі*
*За Айчыну, за Волю, за Мову, за Веліч сваю.*

*У суполках ТБМ*

## Круглае: Ёсць лідэры і першыя поспехі

Яшчэ нядаўна Круглянскі раён быў у ліку 42 раёнаў Рэспублікі Беларусь, у якіх адсутнічала арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Але падзякуем кіраўнікам раёна — старшыні раённага Савета Царыкаву Андрэю Андрэевічу, яго намесніку Асіпенку Мікалаю Іванавічу, пры падтрымцы якіх у лютым гэтага года ў Круглым была створана раённая арганізацыя Таварыства. Узначаліла яе загадчыца методыка-бібліяграфічнага аддзела цэнтральнай раённай бібліятэкі Святлана Іванаўна Вадап'ян. Пазнаёміўся я са Святланай Іванаўнай па тэлефоне, калі яна паведамляла, што кіраўніцтва райсавета даручыла ёй стварыць арганізацыю ТБМ. З размовы адразу адчуў і зразумеў, што не памыліліся кіраўнікі раёна, даручыўшы Святлане Вадап'ян гэтую патрэбную і адказную справу.

Сустрэўся са Святланай Іванаўнай у час яе прыезду на III з'езд Таварыства беларускай мовы. Многія дэлегаты з'езда звярнулі ўвагу на выступленне Святланы Іванаўны. У перапынку да яе падыходзілі, задавалі пытанні.

Падчас выбараў прозвішча Вадап'ян было названа ў ліку кандыдатаў у сябры рэспубліканскай Рады. І выбралі, і не памыліліся. Вярнуўшыся са з'езда, Святлана Іванаўна часта тэлефанавала мне. Зноў задавала шмат пытанняў, але ўжо былі і навіны пра практычныя крокі па адраджэнні мовы, паведамленні пра планы і задумы. І не выпадкова прозвішча Святланы Іванаўны я прачытаў у пратаколе ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнні Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ. Яна абрана на канферэнцыі ў склад абласной каардынацыйнай рады ТБМ.

На гэтым можна было б і паставіць кропку. Але нядаўна мне ў рукі трапіла круглянская раённая газета «Сельскае жыццё» за 7 ліпеня г. г. з тэматычнай старонкай «Вытокі», якую падрыхтавалі актывісты Таварыства. Сярод розных матэрыялаў змешчаны і артыкул Святланы Вадап'ян «Зберагчы для нашчадкаў», які ўсхваляваў мяне сваёй шчырасцю, любоўю да радзімы, патрыятызмам. І я папрасіў рэдакцыю «Нашага слова» перадрукаваць яго. Магчыма вопыт круглянскага Таварыства беларускай мовы зацікавіць каго і, будзем спадзявацца, падштурхне да больш актыўнай работы па адраджэнні роднай мовы, выкарыстанні сродкаў масавай інфармацыі ў гэтай важнай і адказнай справе.

**В. ВІЛЬТОЎСКІ.**

*ШЭСЦЬ МІЛЬЯРДА Ў РУБЛЁЎ ВЫДЗЕЛІЎ УРАД БЕЛАРУСІ для ліквідацыі вынікаў стыхійнага бедства, у час якога вадой былі затоплены вялікія плошчы зямлі ў Гомельскай, Брэсцкай і Менскай абласцях.*




## *Новыя падручнікі*




НА ЗДЫМКАХ: інжынер-тэхнолаг Таццяна Вайтэнка рэгулярна кантралюе якасць выдання вучэбных дапаможнікаў; выдавецтва «Беларускі дом друку» аддрукавала ўжо некаторыя падручнікі. Радуе, што яны на роднай мове. Але, як бачыце, сярод іх ёсць і «Начальный курс географии, 6 класс». Няўжо для Расіі і расійскіх вучняў?

Фота Аркадзя Мікалаева. Белінфарм.

# Ушануем памяць паўстанцаў

*Зварот да мясцовых улад, устаноў і арганізацый Беларусі*



*Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г. падрыхтаваў храналогію асноўных падзей змагання нашага народа за волю, роўнасць і незалежнасць:*

24 красавіка — вызваленне паўстанцкімі сіламі Вільні ад расейскіх акупантаў і ўтварэнне Найвышэйшае Рады Вялікага княства Літоўскага;

7 траўня — пераможная бітва паўстанцаў пад камандаваннем генерала Вялікага княства Літоўскага Якуба Ясінскага з расейскім аддзелам каля вёскі Паляны (цяпер Ашмянскі раён);

9 траўня — далучэнне насельнікаў Берасцейскага ваяводства да паўстання. Утварэнне ў Берасці мясцовага кіраўнічага органа – Парадкавай камісіі;

27 траўня — бітва з расейскім войскам пад Ліпнішкамі, за 12 км ад Іўя;

12—16 чэрвеня — баявы рэйд аддзела Міхала Клеафаса Агінскага па Меншчыне;

13 чэрвеня — вызваленне ад расейскіх войск Валожына;

15 чэрвеня — абвяшчэнне ў Івянцы М. К. Агінскім Зварота да грамадзян Менскага ваяводства;

16 чэрвеня — параза аддзела М. К. Агінскага пад Вішневам;

26 чэрвеня — бітва паўстанцаў пад кіраўніцтвам генерала Якуба Ясінскага з расейскімі аддзеламі пад Соламі, ля Смаргоні;

2 жніўня — сутычка паўстанцкага аддзела Кароля Серакоўскага з расейскім корпусам каля Слоніма;

1—13 жніўня — рэйд двухтысячнага аддзела Міхала Клеафаса Агінскага з-пад Вільні праз Браслаўшчыну на Дынабург (цяпер Даўгаўпілс), дзе да паўстанцаў далучыўся паўтысячны аддзел мясцовай шляхты на чале з генералмаёрам К. Беліковічам;

17 жніўня— 4 верасня — рэйд трохтысячнага атрада Стэфана Грабоўскага па Меншчыне і Магілёўшчыне (Івянец, Ракаў, Койданава, Свіслач, Пухавічы, Асіповічы, Глуск, Любань);

24 жніўня — сутычка авангарда С. Грабоўскага на ракаўскім гасцінцы, у 10 вярстах ад Менска, з расейскім раз'ездам;

26 жніўня — вайсковая нарада ў Пухавічах, на якой вырашана ісці на паўднёвы ўсход Беларусі;

30 жніўня — вызваленне Бабруйска;

4 верасня — бітва з расейскім аддзелам пад Любанню;

14 верасня — сутычка паўстанцаў з авангардам Суворава пад Дзівінам (цяпер Кобрынскі раён);

15 верасня — бой Кобрынскай павятовай міліцыі Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Казіміра Рушчыца з свораўскімі аддзеламі ў Кобрыне;

17 верасня — найбуйнейшая бітва паўстанцаў пад камандаваннем Кароля Серакоўскага з войскам Суворава каля Крупчыцаў (Кобрынскі раён);

19 верасня — вырашальная бітва пад Берасцем;

30 верасня — нарада кіраўнікоў паўстання — Якуба Ясінскага, Тамаша Ваўжэцкага, Юрыя Грабоўскага, Станіслава Макраноўскага пад старшынствам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі ў каралеўскім палацы ў Гародні.

Аргкамітэт заклікае ўсе арганізацыі, установы, выканаўчыя ўлады і грамадзян Беларусі ўшанаваць памяць паўстанцаў, палеглых у баях за свабоду бацькаўшчыны — наданнем іменаў паўстанцаў вуліцам і плошчам гарадоў і мястэчак Беларусі, усталяваннем памятных знакаў, табліц, помнікаў, правядзеннем урачыстасцяў на месцах баёў і іншых падзей Паўстання, у родных мясцінах паўстанцаў, навуковых мерапрыемстваў і г. д.

Аргкамітэтам ужо распачата праца па выпрабу памятнага медаля, па падрыхтоўцы навуковай Акадэміі, прысвечанай асэнсаванню падзей 200-гадовай мінуласці, канцэртаў па музычных творах Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх ды Мацея Радзівіла, а таксама іншых навуковых, культурных, мемарыяльных акцый і мерапрыемстваў.

Аргкамітэт звяртаецца да Міністэрства інфармацыі і выдавецтва «Беларусь» з прапановай паскорыць выданне кнігі «Паўстанне 1794 года на Беларусі», падрыхтаваць і выпусціць юбілейныя плакаты, паштоўкі, буклеты, вымпелы, іншыя выданні і значкі, а таксама да выдавецтва «Навука і тэхніка» паскорыць перавыданне кнігі пра Тадэвуша Касцюшку ў серыі «Нашы славутыя землякі».

Аргкамітэт мяркуе, што Міністэрства сувязі да 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года падрыхтуе і выпусціць канверты, паштоўкі і серыю марак на тэматыку Паўстання.

Справа гонару працоўных калектываў і ўстаноў, якія дагэтуль носяць імя Суворава (у Беларусі ў 35 гарадах і 24 мястэчках ёсць вуліцы імя Суворава), разгледзець пытанне аб іх перайменаванні, бо менавіта гэты чалавек кіраваў расейскай арміяй, што задушыла Паўстанне 1794 г. і нашую незалежнасць. Інакш як здзекам з народнай памяці не назавеш існаванне Кобрынскага музея і Менскай сувораўскай вайсковай вучэльні, дзе і сёння ўслаўляецца «освободительная роль» і «наука побеждать» Суворава.

Аргкамітэт выказвае надзею, што святкаванне 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання ў Беларусі спрычыніцца да вяртання гістарычнай памяці нашага народа, згуртуе нас вакол святой справы адраджэння Бацькаўшчыны.

Для тых, хто жадае выступіць фундатарам мерапрыемстваў па святкаванні 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання на Беларусі, называем наш разліковы рахунак:

700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка г. Менска, код 763.

Тэлефоны: 33-50-12, 32-54-46, 31-32-59.

Адрас: Менск, вул. Варвашэні, 8.

Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года.

# Зберагчы для нашчадкаў

*У суполках ТБМ*

Бацькаўшчына светлая мая... Па якіх бы далёкіх шляхах ні хадзілі твае сыны і дочкі — усё роўна сцежка прыведзе іх на малую Радзіму. Хаця многіх — толькі ў думках, але ўсё роўна прывядзе. Бо з любых дальніх даляў гукае нас Беларусь, і лашчыць сэрца пяшчотнае матчына слова. І вельмі крыўдна, што ў апошні час раздаюцца галасы аб наданні дзяржаўнасці рускай мове нароўні з беларускай. Хаця тут у нас, у Беларусі, рускай мове нічога не пагражае. Прыняцце дзяржаўнага двухмоўя самым дрэнным чынам адаб'ецца на стане роднай мовы, якая, на жаль, на сённяшні дзень знаходзіцца ў вялікім заняпадзе. Вельмі цяжка і марудна ідзе працэс вяртання да сваёй спадчыны, толькі дзе-нідзе з'явіліся парасткі яе адраджэння пасля прыняцця Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, які прызнаў адзінай дзяржаўнай мовай беларускую. Але чамусьці (магчыма, прывыклі з гадамі) не вельмі спяшаюцца гэты Закон выконваць: і паперы пішуцца па-руску, і выступаем па-руску, а часам і абразлівыя словы ў адрас беларусаў гаворым такой рускай мовай, што сапраўднага расіяніна гэта прывяло б у шок.

Урэшце ўвядзенне двухмоўя ў нашай рэспубліцы прывяло б да поўнага знішчэння беларускай мовы, а разам са знікненнем мовы знікне і нацыя. У гэтым няма ніякага сумнення. Да таго ж, прызнанне рускай мовы ў якасці дзяржаўнай абразіла б людзей іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі нашай рэспублікі. А тое, што наша Беларусь — рэспубліка шматнацыянальная, гэта вядома таксама. І тут пакуль што існуюць такія ўмовы, што нішто не пагражае і не перашкаджае развіццю нацыянальных моў, нацыянальных традыцый і культуры. Ды і мова наша беларуская такая ласкавая і пявучая, зразумелая ўсім: і рускім, і ўкраінцам, і палякам. Дык навошта ствараць праблемы там, дзе іх няма? Проста трэба прыкласці ўсе намаганні, каб выконваўся Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і ісці далей — вывучаць глыбей сваю родную мову, імкнуцца дасканала валодаць ёю. Усяго можна дасягнуць, калі захацець. Толькі варта зразумець адно: калі ты нарадзіўся беларусам, то не саромся гэтага, а з годнасцю сцвярджай гэта сваім жыццём і сваімі справамі дзеля росквіту Бацькаўшчыны.

А сілы ўсім нам дасць разуменне, што ўсё пачынаецца адгэтуль, з родных мясцін. Наш паэт-зямляк Міхась Кушнярoў у адным са сваіх вершаў сказаў вельмі добра: «О, я ніколі вам не здраджу, мясціны, дзе выток жыцця». І сапраўды, калі ты прыйдзеш на ўсыпаны белымі рамонкамі бераг Друці, пачуеш роднай песні адгалоскі ці трапнае роднае слова, нап'ешся крынічнай вады, то адчуеш, як лёгка дыхаецца тут, на бацькоўскай зямлі.

І не твая гэта віна (а можа, і твая) у тым, што згубіў ты ў нялёгкіх жыццёвых дарогах і матчына слова, і матчыну песню, і што не хочацца табе ведаць, адкуль пайшоў твой род, што выракся ты і гісторыі сваёй, і Бацькаўшчыны сваёй — усяго самага святога, што ёсць у чалавека.

Таму, услухоўваючыся ў плёскат друцкае хвалі, успомні: хто ты і на якой зямлі жывеш. Яны, гэтыя хвалі, падкажуць табе, што ты беларус і што зямля твая старажытная і святая.

У мяне ёсць надзея, што хоць адна душа адзавецца на маё слова. Думкі плывуць імкліва адна за адной, а вусны шэпчуць затоена: родны кут, любы кут, жураўліны мой бераг, падары надзею і веру ў адраджэнне ўсяго самага святога — у адраджэнне Бацькаўшчыны.

Няхай гэты, хоць і запознены прамень сагрэе сэрца і аблашчыць душу. А віну будзем выпраўляць працай, шчырай і сумленнай.

Святлана ВАДАП'ЯН, старшыня раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны.

*Меркаванні*

# Знявечанае... «средневечье»

Можна шмат гаварыць і спрачацца наконт беларусізацыі ці адраджэння роднай мовы. А можна і ў баку ад гэтага пастаяць, што, відаць, робіць найбольш «свядомы» атрад беларускай інтэлігенцыі — навукоўцы.

Магчыма, я памыляюся. Але ж як растлумачыць наступны факт? Накладам у 2170 паасобнікаў менскім выдавецтвам «Навука і тэхніка» выдадзены зборнік новых матэрыялаў і даследаванняў «Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі». Класічная адмеціна «дэмакратычнасці» сённяшняга часу — двухмоўе — прыйшла і на старонкі згаданай кнігі. З шаснаццаці артыкулаў адзінаццаць прац — на рускай мове. Тут нават калі ў працэнтах да нацыянальнага складу насельніцтва рэспублікі вызначаць, то беларусам дастаецца меней за палавіну. Зрэшты, не гэта галоўнае. Куды больш здзіўлення выклікае іншае. Чаму двухмоўе?.. Уявіце сабе сітуацыю. Настаўнік-гісторык выкладае прадмет па-беларуску, а яму прапаноўваюць крыніцы на розных мовах. Значыць, каб ён «двухмоўна» і выкладаў?

Ці, можа, гісторыкам і археолагам ніякіх няма спраў да беларусізацыі, адраджэння? Можна доўга гаварыць, спрачацца, даказваць, што той-сёй паважае беларускі народ, але мовай у дасканаласці не валодае. А дзе тады энтузіязм, ініцыятыва?.. Не можаце пісаць па-беларуску — перакладайце, шаноўныя спадары!

Шкада, што на двухмоўе закрыла вочы і само выдавецтва, якое павінна было б быць у авангардзе адраджэння. Выдавецтва, якое, дарэчы, многімі іншымі сваімі кнігамі радуе.

Міхась ГРАБАЎСКІ.

## Весткі з Віленшчыны

**Вільня рыхтуецца да візіту папы Рымскага ў Літву, які адбудзецца 4—8 верасня. 4 верасня ў 15.00 сустрэча ў Віленскім аэрапорце. У 21.30 — малітва ў Вострай Браме. 5 верасня ў 10.30 — святая меса ў парку Вінгіс. 6 верасня папа Рымскі наведае г. Каўнас, а 7 верасня — г. Шаўляй. 8 верасня ў 8.30 цырымонія адбыцця ў Віленскім аэрапорце.**

*З рэдакцыйнай пошты*

# Пасольства ў Маскве для нас чужына

Прыгадваю, міністр замежных спраў Краўчанка сказаў, што для беларусаў замежжа беларускія пасольствы — гэта частка радзімы не толькі ў юрыдычным сэнсе. Можа, дзесьці і так, але пасольства Беларусі ў Маскве для нас чужына. Тут можна даведацца, што беларусаў не існуе, а Беларусь толькі вобласць Расіі. А аб тым, што беларускую мову трэба скасаваць, адкрыта казаў сп. Любчык, загадчык гаспадаркі, які тут вырашае за пасла ўсе пытанні. У тым ліку і кадравыя, а таму ад тутэйшых супрацоўнікаў даводзілася пачуць і «Забірайцеся на сваю Беларусь і там размаўляйце на сваёй шавіністычнай мове», і шмат чаго падобнага.

З нашым Маскоўскім таварыствам беларускае культуры пасольства не толькі ўнікае любых кантактаў. Яно імкнецца задушыць Таварыства, якому без дзяржаўнае падтрымкі і так цяжка. У пасольстве мы атрымалі пакойчык пасля жнівеньскага путчу, калі Любчык ды іншыя яшчэ баяліся за свой лёс і таму выканалі загад Шушкевіча, каб нам далі памяшканне. А потым сп. Любчык загадаў, каб Таварыства вымяталася прэч. А на пратэсты адказаў у тым сэнсе, што беларусы — народ пакорлівы, сцерпяць.

Але зразумеўшы, што такое нахабства пакуль заўчаснае, ён вырашыў Таварыства з памяшкання проста выжыць. З гэтага пакоя ён зрабіў сховішча, дзе прыхаваў мэблю, упакаваныя халадзільнікі і рознае смецце. Але галоўным чынам там былі медычныя прылады, ахвяраваныя іншаземцамі для чарнобыльскае дзіцячае лякарні. І больш за паўгода яны ляжалі ў спякоце, дзе нават лекарскія гумовыя пальчаткі пачынаюць разлазіцца. Гэта лагічна і сімвалічна: калі ціхутка дапамагаеш знішчэнню беларускае культуры, то гэта трэба аб'яднаць з фізічным вынішчэннем народа. А беларусы сцерпяць, яны рахманыя.

Аб гэтым мы распавядалі не толькі на з'ездзе беларусаў свету. Размаўлялі і з самім сп. Краўчанкам. Вынікаў дачакаліся хутка: адразу пасля вяртання нашае дэлегацыі пасол сп. Даніленка загадаў, каб нас да гэтага пакоя болей не пускалі. А на наступны тыдзень ён прызначыў сустрэчу з прадстаўнікамі беларускае дыяспары.

Я быў на гэтай сустрэчы. Мне яна падалася дзіўнаю. Пачалася яна з таго, што адзін з нас сказаў у ліку іншага і аб тым, што пасольства Беларусі ў Кыргызстане зрабілася душою беларускае дыяспары, і чаму б сп. Даніленку не пайсці за гэтым прыкладам і не супрацоўнічаць з Таварыствам? Але сп. Даніленка размаўляе толькі па-расійску. А таму баюся, што з усёй прамовы ён зразумеў адзіна тое, што з ім размаўляюць рахмана. Значыць, яго рэакцыя зноў была прадказальная. Пераважна гэта быў крык прыблізна такога зместу: ён чалавек жорсткі, з ім размова кароткая! І маскоўскім беларусам тут няма чаго рабіць! І хай яны скардзяцца Краўчанку, Кебічу, абы каму! Гэта дыпламатычная ўстанова, дзе не можа быць месца для розных таварыстваў! У дадатку, Беларусь краіна талерантная! Нацыянальныя спрэчкі тут не патрэбныя! І Таварыства не мае права абражаць тут людзей беларускаю моваю! Бо гэта пасольства Беларусі!

Хаця ўсё тут болей нагадвае правінцыйную гаспадарчую кантору. А пасольствы краін былога Саюза, якія і выглядаюць як сапраўдныя пасольствы, лічаць гонарам для сябе трымаць пад сваім дахам культурныя арганізацыі сваіх дыяспар. Але ў логіцы сп. паслу не адмовіш. Беларусь жа — краіна асаблівая! Тое, што іншыя народы лічаць ганебным, беларусы абавязаны ўспрымаць, як натуральнае. Свабоднаму чалавеку плююць у твар, і ён абражаецца. А вось нявольнік гэтага і не заўважыць. Звык.

У адказ на нашыя пытанні сп. Даніленка чамусьці давёў да нас інфармацыю аб тым, што Віцебскі Савет нядаўна прыняў рашэнне далучыцца да Расіі. Сэнс гэтае заявы для нас застаўся незразумелым.

Аб скрынках жа з чарнобыльскаю дапамогаю ён сказаў, што адвезці іх на Беларусь не было магчымасці, бо кожнае месца ў самалёце каштуе купу грошай. Хаця хапіла б аднаго грузавіка. А спадарыня выканальніца абавязкаў радцы па культурных справах тут жа растлумачыла, што беларускую гімназію пры пасольстве, пытанне аб якой ужо ўзгоднена з Міністэрствам адукацыі, адкрыць немагчыма, бо ўсе сродкі патрэбны для ліквідацыі наступстваў Чарнобыля.

А пасля сустрэчы выявілася, што скрынкі з дапамогаю з пакоя зніклі. Застаецца спадзявацца, што іх сапраўды адаслалі да Менскае анкалагічнае лякарні, як нам гэта сказалі. Зрэшты, сп. Даніленка ўсё ж дазволіў Таварыству паіснаваць тут яшчэ крыху і паабяцаў дапамагчы адкрыццю гімназіі. Але падалося, што ён так і не зразумеў, што гэта такое. Абодва бакі сустрэчаю засталіся незадаволеныя. Уражанне склалася кепскае. Чужынцамі мы тут былі, чужынцамі і застанёмся.

На выпадак, калі гэтая гісторыя падалася б камусьці неверагоднаю, мы маем доказ у кшталце магнітафоннага запісу таго, што адбывалася на сустрэчы са сп. Даніленкам.

З павагаю
**Віктусь ІВАНОЎ,**
**Маскоўскае рэгіянальнае аб'яднанне Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

6 ліпеня 1993 г.



# Аляксандр Падлужны: Праблема кадраў — сур'ёзная перашкода ў развіцці мовазнаўства

***Гутарка з дырэктарам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук А. І. Падлужным***

**— Аляксандр Іосіфавіч, Вы адзін з вядучых спецыялістаў у галіне мовазнаўства. Хацелася б даведацца, з чаго пачыналася Ваша творчая біяграфія, як Вы сталі моваведам?**

— У 1954 годзе я паступіў ва універсітэт на філалагічны факультэт. Пачынаючы з першага курса, мае сябры-аднакурснікі захапляліся літаратурай. Адны пісалі вершы, другія спрабавалі свае сілы ў прозе. Многія з іх цяпер сталі вядомымі літаратарамі, журналістамі, паэтамі. Я ж з першага курса зацікавіўся мовазнаўствам. Захапляўся найбольш фанетыкай. Пасля заканчэння універсітэта настаўнічаў у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці. Мне вельмі падабалася гэтая работа, але хацелася займацца навукай. Восенню 1961 года паступіў у аспірантуру Інстытута мовазнаўства. Закончыў яе не вельмі ўдала, паколькі спецыялізаваўся ў галіне эксперыментальнай фанетыкі, а належнай тэхнічнай базы для даследавання мовы ў Інстытуце рускай мовы Акадэміі навук СССР, куды я быў прымацаваны, не было. У выніку мне давялося змяніць ухіл сваёй навуковай дзейнасці і заняцца тэарэтычнай часткай фанетыкі, якая называецца фаналогіяй. Я вельмі ўдзячны свайму навуковаму кіраўніку, вядомаму савецкаму вучонаму Раймонду Генрыхавічу Піятроўскаму. Ён зрабіў на мяне вялікі ўплыў у чыста навуковым плане. У 1967 годзе я абараніў кандыдацкую дысертацыю. На маю думку, яна атрымалася ўдалай і была цалкам апублікавана. З таго часу я займаюся праблемамі фанетыкі беларускай мовы. Вывучаў у асноўным вусную беларускую мову, арганізаваў лабараторыю эксперыментальнай фанетыкі. На сённяшні дзень я лічу, што дастаткова даследаваў будову, уласцівасці, варыянтнасць вуснай мовы.

**— Аляксандр Іосіфавіч, Вы даўно ўжо ўзначальваеце Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Раскажыце пра яго структуру.**

— Самы вялікі аддзел у нашым інстытуце — гэта аддзел сучаснай беларускай мовы. Аддзел эксперыментальнай фанетыкі, які я доўгі час узначальваў, цяпер стаў яго часткай. Ёсць аддзел дыялекталогіі, дзе вывучаецца народная мова, гаворкі. Яго супрацоўнікамі апублікавана шмат навуковых работ, якія атрымалі высокую ацэнку ў славянскім свеце. Працуюць таксама аддзел гісторыі беларускай мовы, аддзел беларуска-рускіх моўных сувязей, аддзел славянскага тэарэтычнага мовазнаўства, аддзел лексікалогіі і лексікаграфіі.

**— Пайшлі чуткі, што Інстытут мовазнаўства ці то скарачаюць, ці расфарміроўваюць. Калі так, то чаму?**

— На самым пачатку перабудовы ў інстытуце былі скарачэнні супрацоўнікаў. Цяпер ніякіх установак наконт гэтага няма, але фактычна колькасць супрацоўнікаў залежыць ад тых фінансавых сродкаў, якія выдзяляюцца нам дзяржавай праз Прэзідыум Акадэміі навук. Пакуль што дрэнна фінансуецца ўся навука, а акадэмічная асабліва. За пошнія тры гады 50 чалавек з 90 перайшлі працаваць у іншыя дзяржаўныя структуры, дзе патрабуецца добрае веданне беларускай мовы, ды і аплата працы значна вышэйшая. У асноўным гэта малодшыя навуковыя супрацоўнікі. Але тут я павінен сказаць, што амаль усе супрацоўнікі інстытута — гэта сумленныя і вельмі працавітыя людзі. Нядаўна некаторыя выказвалі думку памяняць назву інстытута. З гэтым, безумоўна, ні ў якім разе нельга пагадзіцца. Інстытут займаецца пытаннямі толькі беларускай мовы, але ў розных аспектах.

**— На апошнім з'ездзе ТБМ імя Ф. Скарыны прагучала крытыка ў адрас Інстытута мовазнаўства. Як Вы ставіцеся да гэтай крытыкі?**

— На маю думку, там былі беспадстаўныя заявы, што Інстытут мовазнаўства нічога не робіць у галіне правапісу. Гэта няпраўда. Таму што, калі хто што-небудзь распрацоўваў сур'ёзна, па-навуковаму праглядаючы ўсю лексіку, якая ёсць, дык толькі Інстытут мовазнаўства. Гэта можа вельмі добра прасачыць па тых публікацыях, якія выходзілі з яго сцен. Для прыкладу скажу, што Аляксандр Булыка апублікаваў артыкул адносна правапісу запазычаных слоў. Ён прагледзеў маль усю запазычаную лексіку. Ніхто другі гэтага не зрабіў. Іншая справа, што погляды нашага інстытута не супадаюць з поглядамі тых, хто нас крытыкуе. Але мы да крытыкі ставімся станоўча і ўважліва сочым, за што нас крытыкуюць.

**— Аляксандр Іосіфавіч, як Вы гледзіце на спрэчку паміж прыхільнікамі «тарашкевіцы» і тымі, хто за сучасны правапіс? Вядома, што частка моваведаў, асабліва прыхільнікаў «тарашкевіцы» лічаць Вас кансерватарам. Якая Ваша думка наконт гэтага?**

— Што такое «тарашкевіца»? Мы ведаем «вукавіцу», «кірыліцу», «глаголіцу», «лацініцу», або «лацінку». Так называюцца азбукі. Тарашкевіч жа ніякай азбукі не вынайшаў. Само слова «тарашкевіца» настолькі штучнае, што я яго ніколі не ўжываю. Існуе толькі правапіс Браніслава Тарашкевіча. І той, хто ўжывае слова «тарашкевіца» ў значэнні «правапіс Тарашкевіча», не адчувае, што ён парушае нейкія законы мовы. А што тычыцца правапісу Тарашкевіча, то ён увесь выкладзены на трох ці на чатырох старонках. Тарашкевіч акрэсліў толькі асноўныя контуры правапісу. Там няма шматлікіх дэталяў, патрэбных для практычнага карыстання пісьмом. Я лічу, што Тарашкевіч зрабіў вялікую работу, але яго правапісам цяпер карыстацца нельга. Любое правіла, якое ні возьмеш, уключае шмат агульнага. На маю думку, сучасны правапіс добра адлюстроўвае ўсе асаблівасці беларускай мовы. Іншая справа, што трэба працаваць над яго ўдасканаленнем. Я думаю, што гэтая работа будзе разгортвацца.

**— Беларускай мовай пачалі сур'ёзна цікавіцца за межамі Беларусі: у Германіі, Чэхіі, Польшчы і нават у Англіі. На памяць прыходзяць імёны такіх вядомых вучоных-беларусістаў, як Аляксандр Баршчэўскі, Карл Гутшміт, Вацлаў Жыдліцкі і Джым Дзінглі. Ці падтрымлівае Ваш інстытут з імі нейкія кантакты?**

— У Варшаўскім універсітэце ёсць кафедра беларускай мовы. У нас з імі ўсталяваліся цесныя сувязі. Выязджаем часам туды цэлымі дэлегацыямі, праводзім сумесныя навуковыя канферэнцыі, абменьваемся літаратурай. Але я павінен сказаць, што студэнты Варшаўскага універсітэта, якія спецыялізуюцца па беларускай мове, добра ведаюць этнаграфічныя традыцыі: абрады, беларускія танцы, нацыянальную вопратку, але на практыцы мовай валодаюць не так дасканала.

Яшчэ вядзецца падрыхтоўка студэнтаў па спецыяльнасці «беларуская мова» ў Стакгольмскім універсітэце. У іншых жа месцах праводзяцца толькі даследаванні мовы, выходзяць асобныя публікацыі, рыхтуюцца навуковыя працы...

**— Як Вы гледзіце на перспектывы развіцця інстытута і ўвогуле мовазнаўства на Беларусі?**

— Перспектывы не вельмі радуюць. Па-першае, добра вядома, што любая навука трымаецца на кадрах. Калі гаварыць пра ўзрост спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі, дактароў навук, то ён у асноўным ад 60 да 70 гадоў. Маладзей за 60 год толькі каля 20 працэнтаў. А гэта з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай у развіцці нашага айчыннага мовазнаўства. Неабходна маладое папаўненне. Па-другое, аплата за навуковыя працы і практычныя дапаможнікі вельмі нізкая. І гэта прымушае спецыяліста задумацца: прачытаць студэнтам дзесятак лекцый ці напісаць кніжку? Ён заўсёды прыйдзе да выніку, што прачытаць лекцыі значна прасцей і аплата будзе значна вышэйшая. Не вельмі ахвотна ідзе ў мовазнаўства моладзь.

Гутарыла
**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

Вучымся!

# ПЛАН
## навучальных тэлеперадач на 1993/94 навучальны год

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | ВЕРАСЕНЬ | |
| 1. | 2,3 | 11 | беларуская літаратура | Радкі, апаленыя вайной / ваенная паэзія Аркадзя Куляшова/ |
| 2. | 6,7 | 6 | беларуская літаратура | „Песня — душа народа" /беларускія народныя песні ў літаратурным чытанні/ |
| 3. | 7,8 | 9 | беларуская літаратура | Францыск Скарына — беларускі першадрукар |
| 4. | 9,10 | 10 | беларуская літаратура | „О Беларусь, мая шыпшына..." / Уладзімір Дубоўка і яго творчасць/ |
| 5. | 13,14 | 9 | геаграфія Беларусі | Беларусь сярод краін Еўропы і свету |
| 6. | 14,15 | 9 | беларуская літаратура | Вяртанне блукаючай зоркі / Мікола Гусоўскі і яго паэма „Песня пра зубра"/ |
| 7. | 16,17 | 10 | беларуская літаратура | „Маё сэрца поўна любасці" /Уладзімір Жылка і яго творчасць/ |
| 8. | 20,21 | 5 | беларуская літаратура | У свеце казкі |
| 9. | 21,22 | 3 | выяўленчае мастацтва | Выразныя сродкі жывапісу |
| 10. | 23,24 | 11 | гісторыя Беларусі | Пачатак Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі |
| 11. | 27,28 | 4 | музыка | Цудоўная палітра жыцця /адлюстраванне жыцця народа ў народнай і кампазітарскай музыцы/ |
| 12. | 28,29 | 3 | пазакласнае чытанне | Артур Вольскі — дзецям |

(Працяг будзе)

# *Лаціна жыве*

Калісьці наш суайчыннік Андрэй Волян, знакаміты рэфарматар і палітычны дзеяч Вялікага княства Літоўскага (а затым Рэчы Паспалітай), пісаў: «У нашым народзе лацінскай мовай карыстаюцца так часта, што не разумець па-лацінску могуць вельмі нямногія». Сам Волян, які нарадзіўся ў 1530 годзе і пражыў большую частку свайго жыцця ва ўласным маёнтку Біюцішкі, што каля Ашмян, амаль усе творы пісаў па-лацінску. І гэта не толькі з тае прычыны, што ён любіў лацінскую мову, але і таму, што лацінай тады карысталіся ў шмат якіх краінах.

Таксама і на тагачаснай тэрыторыі Беларусі існавалі шматлікія навучальныя установы, дзе лацінская мова была адным з асноўных прадметаў. Вельмі грунтоўна лаціна вывучалася ў езуіцкіх калегіумах, якія знаходзіліся ў розных гарадах Беларусі. У прыватнасці, навучальная праграма Полацкага езуіцкага калегіума, а пазней Полацкай акадэміі, прадугледжвала вывучэнне ў арыгінале твораў Цыцэрона, Карнеліуса Нэпаса, Салюстыя. Даваліся элементы вершаскладання па ўзорах твораў Авідыя, Катула, Тыбула, Гарацыя.

Наша беларуская моладзь, што ехала вучыцца ва ўніверсітэты Кракава, Балонні, Падуі, Кёнігсберга, павінна была дасканала ведаць лацінскую мову, бо там навучанне вялося на гэтай мове.

І не дзіва, што ў прыватных бібліятэках беларускіх магнатаў і шляхты было многа лацінскіх кніг. На Беларусі чыталіся творы Цыцэрона, Лукрэцыя Кара, Сенекі, Вергілія, Гарацыя, Авідыя, Плаўта, Ювенала, Лукіяна, Ціта Лівія, а таксама лацінскія творы гуманістаў Эразма Ратэрдамскага, Фрыча Маджэўскага, Яна Амоса Каменскага, Гуга Гроцыя, Жана Кальвіна, Яна Ласкага, Томаса Мора і многіх іншых.

Але беларусы, ці, як тады называлі іх, ліцвіны, не толькі на лаціне чыталі. Яны таксама і размаўлялі і пісалі па-лацінску. У тыя часы на Літве паяўляюцца лацінамоўныя творы паэзіі, драматургіі, філасофіі. Публікуюцца шматлікія рэлігійныя кнігі. Вось некаторыя імёны нашых слаўных суайчыннікаў, якія напісалі на мове антычнага Рыма высокамастацкія творы. Гэта Ян Вісліцкі, Мікола Гусоўскі, Міхалон Літвін, Андрэй Волян, Францішак Градоўскі, Саламон Рысінскі, Андрэй Рымша, Ян Радван.

А колькі было знакамітых мужоў у Віленскім універсітэце, якія пісалі на лацінскай мове! Сярод іх і такія выдатныя настаўнікі моладзі, як Казімер Сарбеўскі, Сігізмунд Лаўксмін, Альберт Каяловіч, Лука Залускі, Тэадор Білевіч, Антоній Скарульскі, Бенедыкт Дабшэвіч, Казімер Нарбут. Некаторыя з іх працавалі пэўны час у Полацкім езуіцкім калегіуме.

Як ужо адзначалася, у Полацкім езуіцкім калегіуме, а пазней і Акадэміі, да лаціны ставіліся таксама даволі сур'ёзна і лічылі яе важным сродкам моўнай камунікацыі. Так, у акадэмічным часопісе «Miesiecznik Potocki» (№ 4 за 1918 г., с. 251) аўтар, які пазначыў сябе ініцыяламі Х. І. *R.*, пісаў: «Лаціна і да гэтага часу з'яўляецца мовай вучоных, якую разумеюць ва ўсіх цывілізаваных краінах... Лаціна можа замяніць многія іншыя мовы».

Лаціна гучала тады не толькі ў навучальных установах Вялікага княства Літоўскага. Ёю карысталіся і ў судовай практыцы. Усе Статуты Вялікага княства былі таксама перакладзены на лацінскую мову. Па-лацінску пісаліся ўказы, пагадненні, позвы, прывілеі. На лаціне выступалі абвінаваўцы і адвакаты, паслы і соймавыя дэпутаты. На гэтай мове святары казалі свае казанні.

Многае з той лацінамоўнай спадчыны, якую пакінулі нам нашыя слаўныя продкі, бясследна знікла. Аднак і многае ўсё ж такі захавалася. Гэты скарб ляжыць у кнігасховішчах нашых і замежных бібліятэк. Але беларускія навукоўцы амаль не чытаюць айчынную лацінамоўную літаратуру. Не чытаюць таму, што лаціну не надта ведаюць.

Ды і тыя, хто зараз вывучае лаціну, абмяжоўваюцца сухімі тэкстамі расійскіх падручнікаў і знаходзяцца покуль у цянётах старой застойнай традыцыі, якая адмаўляе практычнае валоданне лацінскай мовай. Выкладчыкі-лаціністы не вядуць, як правіла, свае заняткі па-лацінску, а навучэнцы ні з кім на лаціне не размаўляюць, ніякіх пісьмаў нікому на мове Авідыя не пішуць.

Скажа той-сёй: «А каму, сапраўды, можна пісаць на лаціне? Хіба што рымлянам на той свет?» Не, і на гэтым свеце ёсць носьбіты лацінскай мовы. Асабліва многа сяброў лаціны ў Заходняй Еўропе. Тут існуюць суполкі аматараў лацінскай мовы, друкуюцца лацінамоўныя часопісы і кнігі, на лацінскай мове наладжваюцца семінары, праводзяцца кангрэсы.

Так, у жніўні 1993 года ў Галандыі адбудзецца міжнародны кангрэс, які арганізуе Акадэмія лаціны. Усе даклады прысвечаны адной агульнай праблеме з такой назвай: «Лаціна, або духоўная спадчына ўсёй Заходняй Еўропы: чым лаціна была, чым ёсць і чым хутка будзе». Цікава, што на гэтым кангрэсе выступяць лаціністы Расіі, а таксама лаціністы Кітая. Але на гэтым форуме нікога не будзе з Рэспублікі Беларусь.

Варта адзначыць таксама, што на лацінскай мове ў Заходняй Еўропе вядуцца радыё- і тэлеперадачы. Напрыклад, Аўстрыйскае тэлебачанне ў Вене кожны тыдзень дае лацінскі тэкставы матэрыял з перакладам на нямецкую мову. Штотыднёва з апошнімі паведамленнямі выходзіць у эфір Фінская радыёстанцыя ў Хельсінках. Наладжваюцца перадачы апошніх навін Брэменскай радыёстанцыяй у Паўднёвай Германіі.

Такім чынам, у краінах Заходняй Еўропы лацінская мова ўжываецца як сродак моўнай камунікацыі. У той жа час лаціна — гэта мова нейтральная. Яна не закранае нацыянальных інтарэсаў сучасных нацый і можа быць, як і раней, міжнароднай наднацыянальнай мовай.

Нам, беларусам, неабходна як мага часцей карыстацца лацінай. Тым болей, што ў нас ёсць свая цудоўная традыцыя. Менавіта ў Вялікім княстве Літоўскім побач з беларушчынай жыла і квітнела мова лацінская. Заходняя Еўропа разумела нас тады без усялякіх цяжкасцей. Дык чаму ж і цяпер, калі ў нашай краіне адбываецца столькі сустрэч з прадстаўнікамі далёкага замежжа, не адрадзіць лаціну на Беларусі і не зрабіць яе мовай міжнародных дачыненняў.

Трэба сказаць, што зараз лацінскай мове надаецца ў нас большая ўвага, чым некалькі гадоў таму. У вышэйшых навучальных установах, дзе вывучаецца лаціна, павялічваецца на яе выкладанне колькасць гадзін. Значная колькасць гадзін адводзіцца на лацінскую мову ў гімназіях і ліцэях.

Аднак дасягнуць практычнага валодання лацінай пакуль што не ўдаецца. І перш за ўсё з тае прычыны, што няма ў беларусаў лацінскіх падручнікаў, адсутнічаюць беларуска-лацінскія размоўнікі ды беларуска-лацінскія слоўнікі. Каб неяк пасадзейнічаць тым, хто хоча актыўна авалодаць лацінай, мяркуецца друкаваць у «Нашым слове» адпаведны дапаможны матэрыял. Па магчымасці будуць улічвацца і асабістыя пажаданні аматараў лаціны.

**Уладзімір ШАТОН.**

# *Язык, як перац*

Белы, як засланка (пра вельмі чорнае)
Белы, як лебедзь
Белы, як малако
Белы, як палатно
Белы, як папера (паперка)
Белы, як смерць
Белы, як снег
Белы, як сцяна
Б'ецца, як галубка падстрэленая
Б'ецца, як рыба аб лёд
Блізка, як пад носам
Блізка, як рукою дастаць (падаць)
Бліснула, як воўчае вока
Бліснуў, як шкельца
Блішчыць, як воўчае вока (пра слабы агеньчык)
Блішчыць, як золата
Блішчыць, як лысіна
Блішчыць, як люстэрка
Блішчыць, як насмалены
Блішчыць, як самавар
Блішчыць, як светлячок
Блукае, як цень
Больш дзіва, як піва
Борзды, як рысак
Босы, як цюцька
Боўтнуў, як камень у ваду
Бразнуўся, як сноп на ток (з поду)
Броўкі, як сярпочкі
Броўкі, як шнурочкі
Брэша, як сабака (дурань) на месяц (на вецер)
Будзь багаты, як зямля
Будзь вясёлы, як сват на вяселлі
Будзь здаровы, як вада
Будзь здаровы, як дуб
Бухае, як у бочку.
Буркуюць, як галубкі.
Бы сыр у масле качаецца.
Быццам хто языком злізаў.
Б'юцца, як пеўні.
Бядуе, як на пажарышчы (пагарэлішчы).
Бядуе, як позна ажаніўшыся.
Бяжыць, як жараб за кабылаю.
Бяжыць, як жару ўхапіўшы.
Бяжыць, як на пажар.
Бяжыць, як падсмалены.
Бяжыць, як сабака за возам.
Бялейшы за снег.
Бярыся, як галодны за хлеб.
Бярэ, як багатага за жывот.
Бярэцца, як агонь.
Бярэцца, як назаўтра (налета) трэба.
Валасы, як з дроту.
Валасы, як лён.
Валасы, як шоўк (як з шоўку).
Валачэ, як кот селядца.
Валачэцца, як сабака за возам.
Валіцца, як націна.
Валіць, як на вала.
Валіць, як на каня.
Валіць (гаціць), як у процьму.

**З кнігі Ф. Янкоўскага «Беларускія народныя параўнанні».**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—34.*

## Калі была створаная першая беларуская канстытуцыя?

Распрацоўка канстытуцыйнага права ў Беларусі пачалася яшчэ ў XIV стагоддзі ў агульназемскіх і абласных прывілеях, але ў іх былі толькі асобныя нормы, якія забяспечвалі правы шляхты. Выходным момантам у развіцці канстытуцыйнага права ў нашай дзяржаве паслужыў прывілей вялікага князя Казіміра 1447 года. Наступным этапным дакументам быў прывілей вялікага князя Аляксандра 1492 года. Але найбольш поўна канстытуцыйныя нормы былі выкладзеныя ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566 і асабліва 1588 года.

Статут 1588 года прадугледжваў крымінальную адказнасць шляхціча за забойства простага чалавека, абвяшчаў ідэю верацярпімасці, забараняў перадачу вольнага чалавека за даўгі або злачынства ў няволю, абмяжоўваў пакаранне непаўналетніх (да 16 гадоў).

Праз увесь Статут праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Гэтая ідэя была накіраваная найперш супраць дэспатызму гаспадара і буйных феадалаў, яна супрацьпастаўлялася сярэднявечнай тэакратычнай тэорыі паходжання і сутнасці дзяржавы.

Характэрна, што Статут 1588 года ігнараваў акт Люблінскай вуніі, замацоўваў і юрыдычна афармляў незалежнасць Беларускага гаспадарства. Ён абавязваў урад вярнуць адлучаныя ад Вялікага Княства землі, забараняў прызначаць на дзяржаўныя пасады і надзяляць зямлёю «чужаземцаў і заграніцнікаў», у тым ліку і палякаў, захоўваў адасобленасць дзяржаўных устаноў, войска, заканадаўства, эканомікі і фінансаў.

Статут 1588 года быў надрукаваны ў Вільні, у друкарні Мамонічаў, на беларускай мове, а пазней неаднакроць перакладаўся на іншыя еўрапейскія мовы — польскую, нямецкую, украінскую, расейскую. Ён завяршыў кадыфікацыю права ў Вялікім Княстве. Паводле дасканаласці і лагічнай завершанасці яму не было роўных у тагачаснай Еўропе. А абвяшчэнне ідэі верхавенства права ў перыяд феадалізму сведчыла аб зараджэнні новай дзяржаўна-прававой тэорыі.

Наш Статут значна ўплываў на заканатворчасць суседніх народаў: яго выкарыстоўвалі пры кадыфікацыі прускага права, ён быў крыніцаю права ў Польшчы і на Украіне, ужываўся ў судах Латвіі і Эстоніі. Многія артыкулы Статута без зменаў перайшлі ў расейскае Саборнае ўлажэнне.

Усё гэта сведчыць пра высокі ўзровень развіцця юрыдычнай думкі і дзяржаўных інстытутаў Беларусі ў яе «залатую пару».

Язэп ЮХО.

## Хто такі Мікола Гусоўскі?

Выдатны беларускі пісьменнік эпохі Адраджэння Мікола Гусоўскі (каля 1470—1533) вядомы перш за ўсё сваёю «Песняю пра зубра» («Carmen *de* Bisontis»),— літаратурным шэдэўрам, напісаным на лацінскай мове. У Вялікім Княстве Літоўскім на гэтай мове даўней пісаліся шмат якія дзяржаўныя акты, выкладаліся навукі ў школах, правіліся набажэнствы ў храмах. Нельга было ўявіць адукаванага ліцвіна-беларуса, які б не ведаў лацінскае мовы. Ад часоў Антычнасці і да сярэдзіны XIX стагоддзя лаціна лучыла ўсю адукаваную Еўропу, дзе яна была моваю рэлігіі, школы, навукі і літаратуры. Вось чаму Мікола Гусоўскі, які хацеў уславіць веліч і магутнасць Айчыны перад усім светам, склаў сваю паэму на гэтай мове.

Твор ягонага жыцця — «Песня пра зубра» напісаны ім падчас знаходжання ў складзе пасольскае місіі ад Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў Рыме. Тут, з просьбы папы Рымскага, пад уражаннем бою быкоў, на якім ён прысутнічаў, М. Гусоўскі распачынае пісаць паэму.

Галоўны герой паэмы, зубр, сімвалізуе сабою ўсё Княства, ягоных жыхароў і зямлю. Вітаўт Вялікі паказаны аўтарам з незвычайным захапленнем і любоўю як увасабленне вайсковай магутнасці і дзяржаўнай велічы Геларускага гаспадарства.

«Песня» была надрукавана ў 1523 годзе ў Кракаве, дзе паэт правёў апошнія гады перад смерцю. Апрача яе, пяру Гусоўскага належаць вершы «Суцяшэнне» і «Да св. Сэбасцьяна», а таксама паэмы «Новая і слаўтая перамога над туркамі», «Жыццё і чыннасць св. Гіяцынта».

М. Гусоўскага часам беспадстаўна прыпісваюць да жамойцкае, украінскае або польскае літаратуры, не ўлічваючы відавочных сведчанняў яго беларускага паходжання ў самой паэме. Зубр, на якога ў маладосці паляваў паэт, не вадзіўся ў стэпах Украіны, а рака яго маленства, Дняпро, як вядома, не працякае ні ў Польшчы, ні ў Жамойці. Да таго ж, ідэал паэта — Вітаўт — у палякаў ніколі асабліва не шанаваўся. І, нарэшце, самае галоўнае — беларуская ментальнасць, якою прасякнуты твор і якая фіксуецца на ўсіх узроўнях яго будовы.

Прызнанне ў свеце паэтычнага таленту аўтара «Песні пра зубра» засведчана міжнароднай арганізацыяй ЮНЭСКА, якая ўключыла імя Міколы Гусоўскага ў спіс найвыдатнейшых дзеячаў славянскага свету. У 1980 годзе ўсё прагрэсіўнае чалавецтва святкавала 500-гадовы юбілей паэта.

Алесь ЖЛУТКА.

## Хто заснаваў беларускае кнігадрукаванне?

Гэта зрабіў наш славуты суайчыннік Францішак Скарына. Нарадзіўся ён у Полацку ў сям'і купца пры канцы 80-х гадоў XV стагоддзя. Першапачатковую адукацыю атрымаў у сваім родным горадзе і, відаць, у Вільні. У 1504—1506 гадах вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта.

У 1512 годзе ў Падуанскім універсітэце (Паўночная Італія) ён, першы сярод усходніх славянаў, атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны. Як сведчаць даследчыкі, Ф. Скарына не мог атрымаць годнасць доктара ўва ўрачыстай абстаноўцы, бо ў яго неставала грошай на раскошнае адзенне. Усёй раскошы ён здолеў супрацьпаставіць бліскучы інтэлект, і доктарская ступень была прысуджаная яму адзінагалосна. Яго незвычайным розумам і талентам захапляліся сучаснікі.

Як чалавек шматграннага таленту, Ф. Скарына неўзабаве распачаў дзеля асветы свайго народа выдавецкую дзейнасць. 6 жніўня 1517 года ў чэшскай Празе пабачыла свет першая беларуская друкаваная кніга. За тры гады ён выдаў там 23 кнігі Бібліі ў сваім перакладзе на беларускую мову. Вярнуўшыся на радзіму, Ф. Скарына заснаваў у Вільні першую на Беларусі друкарню і выпусціў тут яшчэ дзве кнігі — у 1522 і 1525 гадах.

Згодна з ацэнкамі спецыялістаў, Скарынавы кнігі ўяўляюць выключную з'яву як паводле колькасці змешчаных у іх гравюраў, так і паводле бездакорнай тэхнікі выканання. Сваёй прыгажосцю і дасканаласцю яны далёка перасягаюць не толькі ранейшыя царкоўнаславянскія выданні, але нават і тагачасныя венецыянскія.

Варта зазначыць, што ў пачатковай гісторыі беларускага кнігадруку годнае месца займаюць і імёны віленскіх мяшчанаў Якуба Бабіча і Багдана Онькава, якія фінансавалі грандыёзную выдавецкую дзейнасць Ф. Скарыны.

Такім чынам, беларусы першыя сярод усходнееўрапейскіх народаў атрымалі друкаваную кнігу на роднай мове. Францішак Скарына сваім перакладам паказаў, як трэба любіць свой народ і шанаваць матчыну мову. Дзякуючы гэтакім волатам духу, беларуская культура ўзнялася да еўрапейскіх вышыняў.

Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.

*Працяг будзе.*

***Чыталі?***

# Беларуская культура існуе не толькі ў Беларусі

«А ўсё ж, што б ні гаварылі, шырыцца, набірае моц беларускае Адраджэнне. Нягледзячы на адчайнае супраціўленне нацыянальных нігілістаў, чыноўнікаў, бюракратаў. Не зважаючы на тое, што перашкоды чыняцца ледзь не на кожным кроку.

І тым не менш. Вяртаюцца з небыцця многія слынныя імёны, якія раней ганьбаваліся ці старанна затоптваліся. Становіцца нашым духоўным набыткам іх творчая спадчына. Увогуле вяртаецца гістарычная памяць. Наладжваюцца розныя культурныя пачынанні, імпрэзы. І ўжо сёння мы значна духоўна багацейшыя, чым былі колькі гадоў назад» — так піша ва ўступным слове да кнігі «Культура беларускага замежжа» Анатоль Сабалеўскі. І гэта сапраўды так. Але ж зусім нядаўна, тры гады назад нельга было і заікацца пра тое, што беларуская культура існуе не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Тры гады назад кнігу «Культура беларускага замежжа» не выдала б ні адно дзяржаўнае выдавецтва. Праўда, і цяпер кніга выйшла накладам усяго тры тысячы паасобнікаў, хоць у анатацыі напісана, што выданне разлічана на шырокае кола чытачоў.

Дык чаго ж баяліся некалькі гадоў назад нашы выдаўцы, калі ігнаравалі такія імёны, як Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў? Адказ зусім просты: страты сваіх пасад. Але час той прайшоў. Дзякуючы тым жа выдаўцам, а сярод іх заўсёды былі, у добрым сэнсе, нацыяналісты, набліжаўся сённяшні дзень, калі стала магчымым правядзенне Першага з'езда беларусаў свету.

Вернемся да кнігі. Яна складаецца з невялікіх, але грунтоўных артыкулаў «Між берагамі» (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай) Міколы Мішчанчука, «Мне песня дадзена для мукі...» (Штрыхі да творчага партрэта Масея Сяднёва) Лідзіі Савік, «Вучоны, паэт, грамадзянін» (Штрыхі да творчага партрэта Алеся Барскага) Яўгена Адамовіча, «Данчык — шлях да Беларусі» Анатоля Сабалеўскага і іншых. Хочацца адзначыць, што гэта кніга — першая ў задуманай серыі. Трэба спадзявацца, што неўзабаве ў кнігарнях з'явяцца новыя выданні, падрыхтаваныя часовым творчым калектывам па даследаванні тэмы «Духоўная і матэрыяльная культура беларускага замежжа». А пакуль што, калі яшчэ хто не набыў згаданую кнігу, але цікавіцца жыццём нашых суайчыннікаў, якія жывуць у ЗША і Польшчы, хай звернецца ў кнігарні. Кніга дапаможа адчуць, што не бедныя культурна і духоўна эмігранты з Беларусі, як да нядаўняга часу пра іх пісалася ў нашым друку.

**В. А.**

# «За вольнасць нашу і вашу»

Пабачыў свет дзевяты нумар газеты «Беларускі калекцыянер». Большасць публікацый традыцыйна прысвечана філатэліі. Газета інфармуе чытача пра новыя беларускія паштовыя маркі. Леў Коласаў выступае з артыкуламі «Філатэлія — занятак дакладны» і «На марках — беларуская архітэктура». Публікацыі праілюстраваны здымкамі новых паштовых штэмпеляў і марак. Да пытання філатэлістычнай тэрміналогіі звяртаецца Лаўрэн Жалезнякоў з Гомеля. У сваёй публікацыі «Тры шэлягі ў філатэлістычны слоўнік» ён пярэчыць Васілёву з Менска, у нататках якога ішла гаворка пра пачатак працы над «Слоўнікам калекцыянера». Гомельскі карэспандэнт, у прыватнасці, заўважае: «...Я б пакінуў у сучасным напісанні наступныя словы: *абанемент, абанент, адрасант, адрасат, кувэрт* (ці — *кувэрта)*. Словы гэтыя агульнаеўрапейскія, і я мяркую, што яны не вартыя асаблівай беларусізацыі.

Нейкімі незразумелымі (не гучаць) здаюцца тэрміны *апаяска, двайчак (спарыш* — значна лепш), *пачак, расьцечнік, чародайка* і некаторыя іншыя.

Замест *пачтар* я б усё ж пісаў *паштар*, а слова *нізка*, здаецца, больш падыходзіць па сэнсу да расійскай *сцепки*, чымся да *серыі*.

І зноў жа, як і ў Еўропе, я б пакінуў *паштовую скрынку* замест *паштоўкі*».

Безумоўна, допіс Л. Жалезнякова носіць дыскусійны характар і гэтым самым падкрэслівае значнасць праблемы. Магчыма, гаворка пра тэрміналогію ў розных галінах калекцыяніравання павінна набыць больш шырокі працяг. У тым ліку і на старонках газеты «Наша слова».

З інфармацыяй пра чарговую знаходку выступае нумізмат-даследчык Міхась Вераціла. Гэтым разам ён расказвае пра «барацінак» 1708 года. Каб даведацца, што гэта такое — звярніцеся да «Беларускага калекцыянера». Уклад у даследаванне гісторыі беларускай эміграцыйнай філакартыстыкі — публікацыя Уладзіміра Цярохіна «Рэдкая паштоўка». Тут жа — і рэпрадукцыя карткі, выдадзенай у гонар Міхала Кукабакі.

Цікавая інфармацыя і ў артыкуле «За вольнасць нашу і вашу». Яўген Майсейчык з Алматы расказвае пра тое, як узнікла і была ажыццёўлена ідэя вырабіць у Казахстане значок у гонар юбілею Тадэвуша Касцюшкі, эскіз якога распрацаваў заслужаны дзеяч мастацтваў Казахстана А. Гур'еў.

Такі вось асноўны тэматычны абсяг дзевятага нумара «Беларускага калекцыянера». Набыць газету можна ў кіёску ТБМ на праспекце Ф. Скарыны.

**Ганна ЦІТАЎКА.**




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Ян Нэруда (1834—1891) — класік чэшскай літаратуры: паэт, празаік, публіцыст, крытык; адна з выбітных постацей чэшскага нацыянальнага адраджэння другой паловы XIX стагоддзя.

*Ян НЭРУДА*

* * *

Яшчэ мы не умеем паміраць
За свой народ, свой край, сваю свабоду:
Гандлярскімі разлікамі сабе,
Сваёй радзіме прычыняем шкоду.

Яшчэ мы не умеем паміраць,
Як гэта мужныя умеюць людзі...
Ці выжыве айчына, мілы край,
Калі мы надалей такія ж будзем?

* * *

Не наракай, што я з Цябе смяюся,
Заганамі Тваімі я не ганаруся.
Каб жа Табой я меней даражыў —
Усё б хваліў наперакор душы.

Любоў сляпая — што папружка тая,
Свядомая любоў — святая.
Высмейваю заганы я Твае:
На большае — любові нестае.

* * *

Чаму яшчэ жыву? Дакуль
Дні будуць прылучацца,
І легкаважна вечарэць,
І снамі гадавацца?

Жыву, бо з праўдай заадно
Не знаю паражэння,
Хоць ведаю, што смерць мая
Цяжэйшай будзе утрая
За веру ў абуджэнне.

* * *

Песня страсці — болю людскога пярліна,
Горыч, што трапіла з сэрцаў у душы;
Толькі заціхне ў целе тваё гучанне —
Хворасць успыхне, якое і не прытушыш.
Сонца тады пачне ўсё часцей задыхацца,
Скроні мае перакрыжуюць халодныя путы;
Здзівіцца смерць: чалавек на сябе наклікаў
Самыя страшныя ў свеце пакуты.

* * *

О, цешся ты з вясны, пакуль
Жыццё след не згубіла
І ў сэрцы, у жытле званоў,
На поўнач не прабіла!
Хай кветка кожная табе
«З сабою смерць нясу!» — адкажа.
Хто сам калісь квітнеў, таму
І паміраць не страшна...

**Пераклад з чэшскай**
**Сяргея ПАНІЗЬНІКА.**

**Х. Л. БОРХЕС**

# «Кніга прыдуманых істотаў»

## КЕНТАЎР

Кентаўр — самае найгарманічнае стварэнне фантастычнае заалогіі. «Двухформавым» названы ён у Авідыевых «Метамарфозах», аднак нам няцяжка забыцца на яго гетэрагенную прыроду і мысліць, што ў Платонавым свеце формаў, побач з архетыпам каня альбо чалавека, ёсць архетып кентаўра. Адкрыццё гэтага архетыпа запатрабавала доўгія вякі, першабытныя ды архаічныя выявы прэзентуюць нам голага чалавека, да якога няўклюдна прылеплены конскі азадак. На заходнім франтоне Зеўсавага храма ў Алімпіі кентаўры ўжо маюць конскія ногі, а там, дзе павінна пачынацца конская шыя, уздымаецца чалавечы торс.

Кентаўраў спарадзілі тэсалійскі гаспадар Іксіён ды воблака, якому Зеўс надаў аблічча Геры; іншая легенда агалошвае, што яны — Апалонавыя дзеці (маецца меркаванне, што слова «кентаўр» паходзіць ад «гандхарва», у ведыйскай міфалогіі «гандхарвы» — малодшыя багі, якія кіруюць сонечнымі конямі). Тое, што грэкі гамераўскай эпохі не ведалі сярод сябе вершнікаў, вымагае думку, што першы качэўнік, пабачаны імі, падаўся ім чымсьці адзіным са сваім канём, як доказ прыводзяць тое, што жаўнераў Картэса ды Пісара індзейцы гэтаксама ўяўлялі кентаўрамі. «Адзін з тых вершнікаў зваліўся з каня, і калі індзейцы, якія былі ўпэўнены, што гэта адно цэлае, убачылі, што гэтая жывёліна падзялілася на дзве часткі, дык страх іхні быў настолькі вялікім, што яны ляманту ючы пабеглі назад да сваіх, крычучы, што з аднаго зрабілася два, палохаючы гэтым усіх; і быў у гэтым нейкі таемны цуд, бо, калі б не здарыўся такі выпадак, дык можна было б меркаваць, што яны перабілі бы ўсіх хрысціян»,— гаворыць адзін з тэкстаў, што цытуе Прэскот. Але грэкі, у адрозненне ад індзейцаў, коней ведалі, больш падобна да праўды меркаванне, што кентаўр — гэта наўмысна створаны вобраз, а не плён памылкі ці няведання.

Самая папулярная з легендаў, дзе фігуруюць кентаўры,— легенда пра бойку з лапіфамі, якія запрасілі іх на вяселле. Госці віна раней не каштавалі — на балі захмялелы кентаўр абразіў нявесту і, куляючы сталы, распачаў слынную «кентаўрамахію», якую Фідый альбо ягоны вучань выявіў у Партэноне, Авідый ацяваў у XII кнізе «Метамарфозаў» і якая натхніла Рубенса. Пераможаныя лапіфамі кентаўры былі змушаныя збегчы з Тэсаліі. У іншае бойцы Геракл знішчыў іх, страляючы з лука.

Кентаўр — увасабленне вясковага дзікунства і неўтаймаванасці, але «найсправядлівы з кентаўраў» — Хірон («Іліяда», кн. XI) быў настаўнікам Асклепія ды Ахілеса, якіх навучыў мастацтвам музыкі, вядзенню сабак, вайсковае справе і нат медыцыне і хірургіі. Запамінаецца вобраз Хірона ў XII песні «Пекла», якую з агульнай згоды прынята называць песняю кентаўра. На гэты конт Мамільяна ў сваім выданні за 1945 год мае тонкія назіранні.

Пліній кажа, што бачыў гіпакентаўра, закансерваванага ў мёдзе і дасланага як дарунак імператару з Егіпта.

У «Вячэры сямі мудрацоў» Плутарх з гумарам паведамляе, што адзін з пастухоў карынфскага тырана Перыяндра прынёс да таго ў скураной торбе толькі што народжанае ад кабылы жарабя, у якога твар, галава і рукі былі ад чалавека, а ўсё астатняе ад каня. Плакаў ён, як дзіця, і ўсе вырашылі, што гэта з'ява злавесная. Мудрэц Талес, абгледзеўшы яго, засмяяўся і сказаў Перыяндру, што не можа ўхваліць паводзіны ягоных пастухоў.

У пятай кнізе сваёй паэмы Лукрэцый сцвярджае, што існаванне кентаўраў немагчыма, бо коні дасягаюць сталага ўзросту раней ад чалавека, і трохгадовы кентаўр быў бы дарослым канём і разам з тым горкім дзіцёнкам. Гіткі конь памёр бы на пяцьдзесят год раней, чым чалавек.

## БЕГЕМОТ

За чатыры вякі да хрысціянскае эры «бегемот» азначала альбо вялізарнага слана ці гіпапатама, альбо немагчымую і ўвішную сумесь гэтых дзвюх жывёл, цяпер бегемот дакладна азначаны дзесяткам знакамітых вершаў («Кніга Ёва», 40), што апісваюць і даюць уяўленне пра ягоную агромністасць. Усё іншае — проста дамыслена альбо філалогія.

Слова «бегемот» — множнага ліку, рэй вядзецца (як пераконваюць нас філолагі) пра множнае, інтэнсіўнае старагэбрайскае слова «б'гемах», якое азначае «жывёла». Як кажа фра Луіс дэ Леон у сваім тлумачэнні да «Кнігі Ёва»: «Бегемот — старагэбрайскае слова, як бы калі сказаць «быдла». З агульнага меркавання ўсіх гэтых навукоўцаў, яно азначае слана, названага гэтак за ягоную вырадлівую агромністасць, быццам бы адна жывёла адпавядае мноству».

Прыгадаем цікавы факт: у множным ліку ўжываецца таксама імя Богава, «Элахім», у першым вершы «Старога Запавету», хаця кіруемы ім дзеяслоў стаіць у адзіночным ліку («Напачатку стварыў Багі неба і зямлю»), і гэная форма была названа «множным велічы ці паўнаты...» [1].

Вось вершы, што апісваюць «бегемота» адпаведна надрадкоўніка фрая Луіса дэ Леона, які імкнуўся «захаваць лацінскі сэнс і гэбрайскі дух, якому нададзена нейкая веліч»:

«10). Бачыш, вось бегемот: як вол, ён есць.

11). Вось ягоная сіла ў ягоных сцёгнах, і моц ягоная ў пупе ягонага чрава.

12). Паварочвае хвастом сваім, як кедрам, жылы спляліся на ягоных прычынных частках.

13). Косці ў яго, што медныя трубы, што жалезныя пруты.

14). Гэта верх шляхоў Богавых, толькі той, хто яго стварыў, дакранецца нажом да яго [2].

15). Горы народжваюць яму траву, і там гуляюць усе звяры палявыя.

16). Ён пасвіцца ў ценю, пад покрывам трысьнягу ў вільготных балотах.

17). Ценістыя дрэвы акрываюць яго сваім ценем, івы ля ручаёў абкружаюць яго.

18). Вось ён вып'е ўсю раку, і ты не дзівуйся, і ён упэўнены, што ўвесь Ярдан паімкнецца да ягонага ірта.

19). На вачу ягоным, які кручок возьме яго, хто гострым багром праколе яму нос».

Дзеля тлумачэння прывядзём яшчэ пераклад Спірыяна дэ Валеры:

«10). Вось бегемот, якога я стварыў, як і цябе, ён, нібыта вол, есць траву.

11). Вось ягоная сіла ў сцёгнах ягоных, і моц яго ў мускулах чэрава яго.

12). Паварочвае хвастом сваім, бы кедрам; і жылы на сцёгнах ягоных пераплецены.

13). Ногі ў яго, як медныя трубы, когці ў яго, як жалезныя пруты.

14). Гэта вышыня шляхоў Богавых: толькі той, хто стварыў яго, можа наблізіць да яго меч свой.

15). Горы даюць яму ежу, а там усе звяры палявыя гуляюць.

16). Ён кладзецца пад цяністымі дрэвамі, пад покрывам трысняговым і ў балотах.

17). Цяністыя дрэвы абкружаюць яго сваім ценем, івы ля ручаёй абкружаюць яго.

18). Вось ён п'е з ракі і не спяшаецца, застаецца спакойным, хаця б і Ярдан паімкнуўся да рота ягонага.

19). Ці возьме хто яго на вачах ягоных і ці пратне яму нос багром».

ЗАЎВАГІ АЎТАРА:

[1] У «Граматыцы» Гішпанскае Каралеўскай Акадэміі аналагічна сказана: «Хаця «мы», паводле сваёй прыроды, лік множны, яно можа тычыцца назоўнікаў адзіночнага ліку, калі гавораць пра сябе асобы высокага рангу, напрыклад: «Мы, дон Луіс Бяльюга, з міласці Богавай і Святога Апостальнага Прастолу Біскуп Картахены».

[2] Гэта найвялікшае з цудаў Богавых, але Бог, які стварыў яго, знішчыць яго.

**Пераклад С. ВЕРАЦІЛА.**

# Энцыклапедыя беларускай мовы

**Францэ БЕЗЛАЙ** (19.09. 1910), славенскі мовазнаўца, доктар філалагічных навук, акадэмік Славенскай акадэміі навук і мастацтваў, прафесар Люблянскага універсітэта, аўтар манаграфіі «Славенская гідраніміка» і «Этымалагічнага слоўніка славенскай мовы». У сваіх навуковых працах выкарыстоўвае беларускую лексіку і выявіў некалькі цікавых беларуска-славенскіх моўных паралеляў, якія разглядае як аргумент на карысць старажытных сувязей продкаў беларусаў і славенцаў. Так узнікла гіпотэза пра іх міграцыю з басейна Прыпяці на зямлю Славеніі.

*Паводле В. У. Мартынава.*

**Беларусізацыя** — палітыка Кампартыі і савецкага ўрада БССР у 1920— пачатку 30-х гадоў надання беларускай мове функцый дзяржаўнай мовы. У шырокім сэнсе слова пад беларусізацыяй, як адзначалася ў афіцыйным дакуменце Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР, «належыць разумець: 1) развіццё беларускай культуры (школа, ВНУ на беларускай мове, беларуская літаратура, выданне беларускіх кнігаў, навукова-даследчая праца па ўсебаковаму вывучэнню Беларусі і г. д.); 2) вылучэнне беларусаў на партыйную савецкую прафесіянальную і грамадскую працу; 3) пераход партыйнага, дзяржаўнага, прафесіянальнага і кааператыўнага апаратаў і часцей Чырвонай Арміі на беларускую мову» («Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР». Ч. 1. Беларусізацыя. Менск. Выдавецтва Нацыянальнай Камісіі ЦВК БССР. 1928. С. 9—10).

Практычнае ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі сустракала актыўнае і пасіўнае супраціўленне. У дакладзе на X з'ездзе КП(б)Б у студзені 1927 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкі адзначаў, што ў адносінах да савецкага і партыйнага апаратаў «мы павінны праводзіць беларусізацыю ў парадку цвёрдай дырэктывы і звальняць тых супрацоўнікаў, якія не хочуць або не здольны яе выконваць».

*Паводле У. М. Конана.*

## Беларускі народны каляндар

Верасень — першы месяц восені, назва якога пайшла ад вечназялёнай расліны верас, што цвіце ліловымі духмянымі кветачкамі на пясчаных выдмах і балотах. У верасні ўсё паспявае: садавіна, агародніна, бульба.

Характэрная для верасня пара — «Бабіна лета», раннія прыкметы якога ўжо заўважаюцца на Спаса. Дні стаяць цёплыя, сонечныя, у паветры лётае белае павуціння. Пра восень людзі кажуць: «Красна восень снапкамі, а зіма ўмалотам», «Восень — то матка: кісель ды бліны, а вясною вельмі гладка: сядзі ды глядзі», «Увосень і грач багач», «Восень — на дзень пагод восем», «Асенняе сонца, як удаўцова сэрца». Прыкметы на верасень: грымоты — на цёплую восень; арэхі ўрадзіліся — да халоднай снежнай зімы і ўраджайнага на збажыну новага лета; грыбная восень — таксама на ўмалотны ўраджай; бяроза жаўцее ад вяршыні — да ранняй вясны, жаўцее ад зямлі — да позняй вясны; моцна трымаюцца лісты на дрэвах — да позняй зімы; нізка сцелюцца воблакі — да халадоў; туманы — да пацяплення. І яшчэ: «Як багата рабіны — вады па аглабіны».

1 (серада). **Ун.** *Пачатак царкоўнага года.*

5 (нядзеля). **Ун.** *Чатырнаццатая нядзеля пасля Сёмухі.*

**Пр.** *Лупа* (прысвятак). Ёсць такая прыкмета: пасеянае ў гэты дзень жыта ўзыдзе плешынамі — «лупамі».

7 (аўторак). *Баўтрамей (Варфаламей).* Сяўба азімых. Пачатак вясельнай пары («Святы Баўтрамей высылае буслоў па дзяцей»).

8 (серада). **Кат., Ун.** *Нараджэнне найсвяцейшай Багародзіцы. (Другая Прачыстая, або Малая Прачыстая, Багач, Багатнік, Багатуха, Другая Спажа, Зельная, Другі сьвяток).*

**Пр.** *Дзень памяці святой Наталлі.* Паводле народнага календара, халодны ранак на Наталлю-аўсяніцу абяцае раннюю і халодную зіму.

11 (субота). **Пр.** *Іван Галавасек (святы Ян, Іван Калінавік, Іван Посны).* Царкоўны каляндар: *Адсячэнне галавы Прарока, Прадцечы і Хрысціцеля Госпада Іаана.*

Паводле Святога Пісання, Прадцеча быў апошнім у ліку прарокаў — прадвеснікаў прыходу Месіі (Збавіцеля чалавецтва) на зямлю. Ён хрысціў Хрыста ў рацэ Іардан. Выступіў супраць валадара Галілеі Ірада Анціпы, які парушыў іудзейскія законы тым, што ажаніўся на жонцы свайго брата Ірадыядзе пры жыцці апошняга. За гэта Ірад кінуў Хрысціцеля ў цямніцу і загадаў адсекчы яму галаву.

Са святам звязаны розныя народныя прыкметы і звычаі. Як адзначае Алесь Лозка ў «Беларускім народным календары» за 1993 г., у гэты дзень людзі збіралі каліну і журавіны «ад болю галавы», пчаляры «падглядвалі» пчол, на Магілёўшчыне сеялі жыта, на Палессі таксама імкнуліся скончыць сяўбу, а вечарам дзяўчаты выходзілі віць вянкі і спяваць песні, на Тураўшчыне засякалі старога пеўня на вячэру. Забаранялася крышыць і нават есці круглае (бульбу, капусту і інш.), мыць галаву, каб не звіўся каўтун. Людзі казалі: «Ян па лета прыйшоў, а ўжо восень знайшоў», «Іван Прадцеча гоніць птушку далеча», «Да Яна прасіце, дзеткі, дажджу, а па Яне я й адзін упрашу».

12 (нядзеля). **Кат.** *24 нядзеля звычайная, Найсвяцейшага імя Марыі.* **Ун.** *Нядзеля перад Узвышэннем Крыжа.*

14 (аўторак). **Кат.** *Уздзвіжанне Крыжа святога.* **Ун.** *Узвышэнне пачэснага і жыццядайнага Крыжа* — хрысціянскае свята па ўшанаванні Крыжа, на якім быў распяты Ісус Хрыстос.

**«У верасні адна ягада, дый тая горкая рабіна»**

**Пр.** *Сымон (Сямён, Стоўб).* Прысвятак лічыўся днём адлёту птушак. Прыказкі сведчаць пра зменлівы характар надвор'я: «Сымон да варот, на двары сем пагод: сее, вее, круціць, муціць, зверху лье, знізу мяце», «У Сямёнаў дзень да абеду ары, а пасля абеду аратага з поля гані». З днём Сымона звязаны розныя прыкметы на ўраджай, а таксама абрады «Жніво» і «Жаніцьба коміна».

19 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля пасля Узвышэння Крыжа.*

**Пр.** *Міхайла (Цуда)* — прысвятак, які лічыўся днём нядобрых цудаў. Цуд звязваўся з Прачыстай («Не так бойся Прачыстай, як Цуда яе»). А цуды былі такія, што мог узняцца страшэнны вецер («Міхал з поля спіхаў»), загарэцца пуня ці хлеў, здарыцца якая-колечы іншая бяда. Таму па вёсках людзі асцерагаліся на Сымона запальваць святло ў гаспадарчых будынках, малаціць пры агні збожжа.

21 (аўторак). **Пр.** *Нараджэнне (Ражджаство) Прасвятой Багародзіцы (Другая Прачыстая, Малая Прачыстая, Другая Спажа, Багач, Багатуха, Багатнік, Другая Зельная)* — старажытнае свята земляробчага культу Даждзь-Бога і прымеркаванае да яго хрысціянскае свята. Азначала час канчатковай уборкі ўраджаю (збажыны, садавіны і агародніны) і пачатак сяўбы азімых («Прыйшоў Багач, кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку»).

Быў такі звычай: бралі сявеньку з зернем (багач, багацца), утыкалі туды свечку і так абыходзілі ўсе двары ў вёсцы. У адной з хат пакідалі сявеньку зімаваць. Лічылася, што яна цудадзейная і прыносіць гаспадарам шчасце і дабрабыт, за што тыя імкнуліся аддзячыць удзельнікаў працэсіі пачастункам. На Багача многія гаспадары засявалі асвячаным жытам ніўку. Паводле назіранняў Адама Багдановіча, Багач святкаваўся пераважна на Гродзеншчыне і Паўночным Палессі.

23 (чацвер). **Ун.** *Зачацце Яна Хрысціцеля.*

26 (нядзеля). **Ун.** *Семнаццатая нядзеля пасля Сёмухі. Дзень памяці (смерці) апостала і евангеліста Яна Багаслова.*

27 (пятніца). **Пр.** *Уздзвіжанне Жыватворнага Крыжа Госпада Бога (Звіжанне, Узвіжанне, Здзвіжанне).* Народнае тлумачэнне свята: «К Узвіжанню ўсё мае быць здзвінута». Гэта значыць, што прыйшоў час, калі ў жыцці прыроды і чалавека завяршаецца адзін цыкл года і адбываецца пераход у другі. Канчаецца работа ў полі, хаваюцца ў норы паўзуны, адлятаюць у вырай птушкі, а з імі і тая шызая галачка, што «замыкае» ключыкам лета.

З Узвіжаннем звязана шмат народных легенд, адна з якіх — пра змяінага цара. А. Багдановіч у сваіх «Перажытках...» пераказаў паданне, а яго славуты сын Максім напісаў паэтычны шэдэўр «Змяіны цар». Паводле народнага павер'я, у гэты дзень гадзюкі і вужы паўзуць зімаваць у норы. Паперадзе ўсіх паўзе іх цар з залатымі рожкамі-каронай на галаве. Таму людзі баяліся заходзіць у лес, стаяць каля дрэў, капаць зямлю, каб не ўкусіла змяя. «Але калі ўдасца спаткаць змяіны вырай і разаслаць перад змяіным царом абрус, і пакласці хлеб-соль, і пакланіцца яму да зямлі, то ён, перапаўзаючы цераз гэты абрус, у знак падзякі скіне з галавы адзін залаты ражок. Хто падыме яго, той стане мудрым і праніклівым, здольным адгадваць чужыя думкі, даваць правільныя тлумачэнні, знаходзіць выйсце з самых цяжкіх абставін. Акрамя таго, ніякі яд не дзейнічае на шчаслівага ўладальніка змяінага ражка».

29 (серада). **Кат.** *Арханёл Міхал, апякун Беларусі.* Свята ў гонар анёла міласэрнасці, пасрэдніка паміж Богам і людзьмі, якому ў Святым пісанні адводзіцца роля ваяра і змагара з сіламі зла.

Прыкметы: «На Міхала ясная ноч — будзе трывалая зіма», «Калі на Міхала з поўначы вецер вее, то не май на надвор'е надзеі».

І. К.

## Наша гісторыя




Напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету ў Навагрудку было адзначана 740-годдзе каранацыі князя Міндоўга. На ўрачыстасцях прысутнічалі госці з усёй Беларусі, а таксама з блізкага і далёкага замежжа. На гары Міндоўга быў адкрыты мемарыяльны камень, які назаўсёды захавае памяць аб гэтай падзеі.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ. БЕЛІНФАРМ.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**1 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА**

15.45. Да дня ведаў. Вам нашы песні і кветкі...
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
22.20. І «зорка» з «зоркаю» гаворыць... Шоу-праграма.
23.40. НІКа.

**2 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР**

12.50. «Паэт, мора і натхненне». Фільм-канцэрт.
16.50. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. «Радкі, абпаленыя вайной». Ваенная паэзія Аркадзя Куляшова.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
22.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
23.55. НІКа.

**3 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА**

9.00. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура 11-ы клас.
12.50. «Давайце пазнаёмімся». Музычная праграма з удзелам артыстаў беларускай эстрады.
17.05. Для дзяцей. Дарожная азбука.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Палітычны калейдаскоп. Народны рух Беларусі.
21.00. Панарама.

**4 ВЕРАСНЯ, субота**

11.15. Паказвае Гродна. «Роднай зямлёй натхнёныя...» Публіцыстычная праграма.
14.35. ПІК. «Дзень добры, школа!»
15.20. Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоу-конкурсу ў Мазыры. Частка 1-я.
16.10. Цэнтр. Беларуска-германскія культурныя сувязі.
21.00. Панарама.
23.25. НІКа.

**5 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

13.00. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі. Беларускае мастацтва 30—40-х гадоў.
13.40. Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоу-конкурсу ў Мазыры. Частка 2-я.
18.50. «Твар-усмешка, характар-жыццё». Прысвячаецца 35-годдзю Наваполацка.
20.00. Панарама.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 286.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7226 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 30.08.1993 г. у 15 гадзін.